**І ГЭТА ТАК!**

# Гомельскія НАВІНКІ

**Інфармацыйна-забаўляльны бюлетэнь**

**№1, кастрычнік 2007**




**Гомельскі металёвы Гурт “СТЫХІЯ” - як усё пачыналася**
стр.6

**“Банда Марозава” - другое судовае паседжанне**
стр.7

**Авіякатастрофа у Гомелі: загінуўшых няма**
стр.3

# ПРЫШПІЛЬНЫ ФУДБОЛ У ГОМЕЛІ.

***Ірына ПРУШЫНСКАЯ***

Футбол быў сапраўды прышпільны. Але пра сам матч напісана вельмі шмат. Разбор палётаў зрабілі усе спартовыя выданні Беларусі і іншых краін. Мы ж хочам данесьці тое што думаюць пра фудбол і не толькі, у звязку з матчам простыя грамадзяне Гомеля.
Бо гэта як кажуць голас народу, а да яго трэба прыслухоўвацца.
Таму чытайце эксклюзіўны матэрыял, складзены з каментароў балельшчыкаў, якія яны давалі пасьля матчу.
Нажаль не усе, бо фармат не дазваляе гэта зрабіць.
Футбол як ён ёсьць.
Андрэй, цырульнік: "Малойцы! Добра змагаліся! Маглі нават нічыю зачапіць - крыху не пашанцавала. Але гэтав не страшна. Галоўнае узровень футболу расце. Хутка расьці ужо будзе некуды".
Васіль, прадпрымальнік: "У мяне пытанне, у якой з каманд гуляюць парыкмахеры і рабочыя? Яб усю нашу сборную ў поўным складзе адправіў бы працаваць на рынак. Можа там яны навучацца гуляць у футбол."
Васіль, рабочы: "Крыўдна, безумоўна, што так атрымалася... Шкада гомельскіх аматараў футболу ў асноўным... Першы раз зборная прыехала... Пры ліку 0:0 хацелася, каб нашыя фудбалісты проста далі балельшчыкам разрадку, голу парадавацца. Яны і далі... Хоць матамі паругацца, і то лягчэй!"
Зміцер, сябра Васіля: "Пры ліку 0:0 хваляваўся толькі за гомельскую чэсную публіку, якая прыйшла на стадыён, якая разлічвала ўпершыню пабачыць зборную Беларусі. Думаў: ну няўжо нашы футбалісты так і не разрадзяць стадыён... Разрадзілі... У выніку гата самая публіка ператварылася ў мангола-татар... Са сваёй мовай..."
Аляксандр Пятровіч, пенсіянер з Менску: "Да плюсаў можна аднесьці здаецца ня дрэнна падрыхтаваны стадыён у Гомелі, увесь гэты маскарад у пачатку, ды і сам стадыён глядзеўся прыгожа, лепш за наш, дынамаўскі і на гэтым плюсы скончваюцца.
А яшчэ адзначу: колеры формы ну не фартовыя, не фартовая гэта форма зялёна-чырвоная. Хакеісты ў нечым падобным гулялі, дык таксама пасліваліся шмат разоў".
Андрусь, настаўнік: "А што, сёння футбол быў? Па АНТ ж з 18 да 20 Смехапанараму паказвалі..."
Вікторыя, балельшчыца: "За гамяльчан радавацца патрэбна. Такі трыумф зборнай Люксембурга на свае вочы пабачылі... Ні адзін горад Эўропы гэтым пахваліцца ня можа, толькі Гомель!"
Вячаслаў, рабочы: "Тыя дзеці, якія ўпершыню прыйшлі з бацькамі на стадыён падумалі, мабыць, што Люксембург - добрая футбольная краіна. Яны не ведаюць, што ў Люксембургу людзі гуляюць у футбол для забаўлення, і што зарабляюць там нашмат болей за межамі футбольнага поля, чым на ім, і ў жыцці нашмат больш забяспечаны ў фінансавым плане, чым беларусы."
Мікола, слесар: "Патрэбна, каб наш бацька прыклаў руку да кіраўніцтва зборнай і ўзяў справу на асабісты кантроль, вост тады ў нас нешта будзе атрымоўвацца!"
Ігар, прадпрымальнік: "Упершыню за апошні час атрымаў асалоду ад прагляду матчу з удзелам зборнай



# ПРЫШПІЛЬНЫ ФУДБОЛ У ГОМЕЛІ.

пачатак на стр. 2

Беларусі. Няхай нават гэта была радасьць за нарэшце перамогшы Люксембург. Думаю, гомельскія балельшчыкі, якія прыйшлі на стадыён, таксама былі задаволены. Такое пабачыш не часта.
Але ўсё заканамерна. Футбольная зборная - твар краіны. Якую краіну маем, такі і фудбол. І не трэба, трэнера вінаваціць, трэба вышэй глядзець."
Аляксандр, служачы: "Я падыходзіў да стадыёна і за кіламетр быў чутны шум нашых балельшчыкаў... Я зайшоў на стадыён і убачыў амаль пад завязку набіты "Цэнтральны"... Я крычаў разам з усімі "Беларусь, Беларусь!" Я бачыў, як за 90 хвілін нашыя не зрабілі ніводнага 100% моманту і стала мне страшна за перспектывы нашай зборнай... Пасля прапушчанага гола - больш за палова балельшчыкаў стала скандыраваць "Люксембург, Люксембург!" і стала мне страшна за культуру балення... На пытанне скандуючым "Люксембург, Люксембург!" "Вы ў якой краіне нарадзіліся?"я атрымаў адказ: "Я табе твар за Люксембург разаб'ю!" - і стала мне страшна за нашу нацыю."
Зміцер, ахоўнік: "Ну што сказаць? Сёння, 13 кастрычнека, нарэшце памер наш беларускі фудбол. Пры гэтым прысутнічалі 14 тысяч беларускіх грамадзян, якія хацелі асабіста зафіксаваць гэту падзею. Смерць трансляваў канал АНТ і бачылі ўсе беларусы. Права кантрольнага стрэлу было даверана замежнаму госцю з Люксембургу. Нарэшце мы уздыхнем з палёгкай і не будзе адводзіць увагу ад бітваў за ураджай і вынішчэння апазіцыі.
А зборнай Люксембурга я б параіў усе хатнія матчы праводзіць у Гомелі на стадыёне stadio "Centrale".
Віця, хлопец: "Сядзелі як нармальныя пацаны, пілі піва, глядзелі тэлевізар. Пачулі, што забілі гол. Думалі што мы. Аказалася што не. Вось дарэчы гісторыя.
Едзе спадар Штанге па Іраку да джыпе, заходзіць у кожны дом з пытаннем: Ня хочаце пагуляць у футбол? Чалавек 20 згадзілісяя. Пачалі трэніравацца, ён паспрабаваў іх на кожнай пазіцыі. І здарыўся цуд! Блін, тут не Ірак! Не трэба займацца сажызмам у адносінах да балельшчыкаў і мазахізмам у адносінах да сябе."
Вось такое атрымалася экспрэс-інтэрв'ю.
І напрыканцы ангельская пословіца:
"Каб зрабіць чалавека шчаслівым, патрэбна зрабіць яму спачатку вельмі дрэнна, а пасьля - як заўсёды!

# У ГОМЕЛІ РАЗЬБІЎСЯ ВЕРТАЛЁТ: ЗАГІНУЎШЫХ НЯМА

***Пётр КРУЧЫНСКІ***

Днямі ў аэрапорце "Гомель" з вышыні 300 мэтраў упаўверталёт. Двое пілётаў апынуліся заціснутымі ў кабіне. Дзякуючы выратавальнікам, абодва пілёты былі вызвалены. Мэдыкі канстатуюць шматлікія пераломы ў пілётаў. Пацярпелых завезьлі ў лякарні Гомеля.
Як стала вяжома, верталёт выконваў плянава-трэніраванчы палёт.
На 7-й хвіліне палёту, пры заходзе на другі круг, у яго спыніўся рухавік і паветраная машына абрынулася з вышыні на канцавую паласу бясьпекі на тэрыторыі аэрапорта.
Верталёт УЛАЦ-261 выраблены ў 2006 годзе ва Украіне. Належыць вытворчаму аб'яднаньню "Гомельхімсэрвіс". Выкарыстоўваўся пры правядзеньні хімапрацовак расьлінаў у сельскай гаспадарцы.

# ГРАМАДЗЯНСКІ ІСК ЗА НЕЗАКОННЫ ДАГЛЯД РЭЧАЎ У КРАМЕ

***Міхась МІХНАВЕЦ***

Дзве гамяльчанкі маюць намер падаць супраць "Супермаркету Аркада" за парушэнне правоў пакупнікоў.
А дакладней за тое, што ад іх патрабавалі здаць рэчы ў камеру захоўвання крамы і дагледзелі без дазволу рэчы, а таксама не давалі па першаму патрабаванню кнігу скаргаў і прапаноў.
Да таго ж да іх прымяняўся псіхалагічны ўціск з боку супрацоўнікаў крамы і ахоўнікаў.
І хоць уладальнік крамы ў пісьмовай форме прынёс прабачэнне, дзяўчыны маюць намер звярнуцца ў суд і атрымаць кампенсацыю за маральныя пакуты.
Дарэчы, такія выпадкі парушэння правоў маюць месца па ўсяму Гомелю і Беларусі і магчыма дзякуючы гэтаму прэцыдэнту будзе заканадаўча ўрэгулявана пытанне з камерамі захоўвання ў крамах.



# УДЗЕЛ ГРАМАДЗЯН У МЯСЦОВЫМ САМАКІРАВАННІ - ГАЛОЎНЫ ФАКТАР ДЫНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ РОДНАГА ГОРАДА

***Леанід ГРОС***

Шмат жыхароў Гомеля скардзіцца на неупарадкаванасьць вуліц, дрэнную арганізацыю масавых мерапрыемстваў, адсутнасьць неабходных пасажырскіх маршрутаў і інш. Скардзіцца, як вядома, мы ўсе ўмеем. Але гэта не вырашае праблему, бо гэта чуюць толькі нашы сябры і знаёмыя. А чалавек кажа, а што я магу, я маленькі чалавек і ад мяне нічога не залежыць. Але для гэтага існуе мясцовае самакіраванне, з дапамогай якога грамадзяне могуць вырашаць свае праблемы.

Мясцовае самакіраванне ўяўляе сабой даволі складаны арганізацыйны і функцыянальны комплекс. Згодна ч. 1 арт. 6 закону "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь" грамадзяне ажыццяўляюць мясцовае кіраванне і самакіраванне праз Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, органы тэрытарыяльных гаспадарчых саветаў (саветы і камітэты мікрараёнаў, жыллёвых комплексаў, дамавыя, вулічныя, квартальныя, па-сялковыя, сельскія камітэты і іншыя органы, у тым ліку аднаасобныя), мясцовыя рэферэндумы, сходы грамадзян, а таксама іншыя формы прамога ўдзелу ў дзяржаўных і грамадскіх справах. Акрамя названых у гэтым артыкуле можна звярнуць увагу на такія важнейшыя формы, як мясцовыя выбары, правातворчая ініцыятыва і звароты грамадзян.

Заканадаўства і практыка ажыццяўлення мясцовага самакіравання ў розных краінах сведчаць аб



# УДЗЕЛ ГРАМАДЗЯН У МЯСЦОВЫМ САМАКІРАВАННІ - ГАЛОЎНЫ ФАКТАР ДЫНАМІЧНАГА РАЗВІЦЦЯ РОДНАГА ГОРАДА

пачатак на стр. 5

тым, што юнуюць самыя розныя формы ўдзелу грамадзян у самакіраванні. У большасці краін існуюць агульныя формы, але ў некаторых краінах ёсць, і гэта натуральна, свае асаблівасці у пераліку, у колькасці гэтых форм і ў механізмах іх ажьщцяўлення.
Напрыклад, такая форма ўдзелу, як муніцыпальныя выбары ажыцця ўляецца з дапамогай розных выбарчых сістэм: мажарытарнай, прапарцыянальнай і змешанай. Дзейшчаюць розныя механізмы ажьщцяўлення такіх форм, як мясцовы рэферэндум, правaтворчая ініцыятыва насельшцтва, звароты.
Трэба адзначыць, што прыродзе мясцовага самакіравання больш адпавядаюць непасрэдныя формы ўдзелу грамадзян у працэсе самакіравання - рэферэндум, сход, выбары, звароты, правaтворчая ініцыятыва.
Формы напасрэдкага ўдзелу дазваляюць больш дасканала выяўляць грамадскую думку, прымаць рашэнні з улікам інтарэсаў большасці насельніцтва.
Для гэтага могуць прымяняцца такія формы, як абмеркаванне насельніцтвам пытанняў мясцовага значэння, праектаў рашэнняў муніцыпальных органаў, апытанні насельшцтва.
Некаторыя аўтары выдзяляюць наступныя формы грамадскага самакіравання жыхароў: мясцовыя рэферэндумы і апытанні; агульныя сходы і канферэнцыі жыхароў; мясцовыя грамадскія аб'яднанні; рэлігійныя аб'яднанні грамадзян; сродкі масавай інфармацыі; сходы, мітынгі, шэсці, дэманстрацыі, пікеты; звароты грамадзян у органы ўлады. Аднак такія грамадскія ініцыятывы грамадзян, як мітынгі, дэманстрацыі, пікеты, шэсці, не з'яуляюцца непаерэдна формамі ўдзелу ў мясцовым самакіраванні. З дапамогай дадзеных ініцыятыў прыцягваецца ўвага муніцыпальных органаў да актуальных праблем, якія патрабуюць аператыўнага рашэння. Гэта могуць быць праблемы сацыяльнага, эканамічнага, культурнага, экалагічнага і іншага характару.
Мясцовае самакіраванне - гэта працэс прыняцця рашэнняў і іх рэалізацыі. Такія інстытуты, як грамадзяня аб'яднанні, рэлігійныя аб'яднанні, сродкі масавай інфармацыі, не адносяцца да інстытутаў мясцовага самакіравання. Гэта інстытуты цывільнага грамадства, палітычнай сістэмы, якія могуць аказваць нейкі ўплыў на сістэму самакіравання, выступаюць сродкамі выражэння інтарэсаў жыхароў перад муніцыпальнымі органамі. Сродкі масавай інфармацыі - гэта форма передачы сацыяльна значнай інфармацыі, сродак фармавання грамадскай думкі, аднак гэта не форма мясцовага самакіравання.
Формы ўдзелу у самакіраванні ў розных краінах адрозніваюцца. Канстытуцыяй і законамі дзяржавы звычайна прадугледжваюцца універсальныя, традыцыйныя формы ўдзелу жыхароў у мясцовым самакіраванні. Аднак, улічваючы сутнасць самакіравання як формы самарганізацыі, неабходна ў заканадаўстве замацаванне правіла, згодна якому грамадзяне могуць удзельнічаць у самакіраванні і ў іншых формах, якія не супярэчаць заканадаўству. Такое правіла, напрыклад. замацавана у арт. 27 закону Расейскай Федэрацыі "Аб агульных прынцыпах арганізацыі мясцовага самакіравання". Такія формы могуць прадугледжвацца статутамі суб'ектаў самакіравання (напрыклад, запыты насельніцтва да органаў мясцовага самакіравання).
У законе "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь" дапускаецца ажыццяўленне самакіравання "... праз іншыя формы прамога удзелу грамадзян у дзяржаўных і грамадскіх справах" (ч. 2 арт. 3 закону). Аднак законам Рэспублкі Беларусь не прадугледжана права суб'ектаў самакіравання прымаць свае статуты. Пры адсутнасці статутаў суб'ектаў самакіравання складана уявіць сабе магчымасць ажыццяўлення ў Рэспубліцы Беларусь форм удзелу, не прадугледжаных заканадаўствам.
Сярод форм удзелу ў самакіраванні, якія непасрэдна не называюцца законам, але рэальна прысутнічаюць і маюць пэўнае значэнне, неабходна назваць дзейнасьць грамадзян у органах мясцовага кіраванняя і самакіравання. Гэта ў першую чаргу дзейнасць у якасці дэпутата прадстаўнічага органа. Грамадзяне, у тым ліку і дэпутаты, могуць прымаць удзел непасрэдна ў працы розных камісій прадстаўнічага органа. Акрамя таго, грамадзяне ўдзельнічаюць у працы выканаўчых і іншых органаў. Дзейнасць у муніцыпальных органах дае магчымасць непасрэдна ўдзельнічаць у распрацоўцы і прыняцці рашэнняў і у іх рэалізацыі.
ЯК бачна, у нас існуе шмат магчымасьцей, каб кіраваць сваім Горадам так, як гэта патрэбна нам. Але для гэтага патрэбна самім праяўляць ініцыятыву, браць сваё самому, а не чакаць, пакуль за цябе гэта зробіць сусед.

# ГОМЕЛЬСКІ МЕТАЛЁВЫ ГУРТ "СТЫХІЯ" - ЯК УСЁ ПАЧЫНАЛАСЯ

Музычнае жыццё Гомеля мае вялікую гісторыю, шмат знакамітых гуртоў нарадзіў горад над Сожам. І здаецца гэта гісторыя будзе папаўняцца новымі зоркамі. Сёння наш музычны крытык ***Алекс ТРЭШ*** распавядзе пра ўзыходзячую зорку гомельскага цяжкога року, гурт "Стыхія", які нягледзячы на сваю маладосьць ужо аброс легендамі і чуткамі, хоць і не мае пакуль ніводнага афіцыйна выдадзенага альбому. Сапраўды народны гурт.
Дарэчы сам Алекс быў адным з пачынальнікаў гурту, але зышоў з яго. Таму каментар яго будзе як кажуць крыху эмацыйным. Але дакладным. Бо ён прафесіянал. Чэсна.
Але дадім яму слова:
"Дааа... І не хочацца ж, блін, у які ўжо раз разварочваць гэтую кучу нямытых шкарпэтак, але іншых варыянтаў няма, таму прыйдзецца...
Попрасту кажучы "Стыхія" - гэта каманда, заснаваная на разнагалосся паміж лідарам - Артурам - і іншымі ўдзельнікамі гурту. І усё пачалося з моманту стварэння гурта.
28 красавіка 2006 года. Гарацкі Цэнтр Культуры. Канцэрт расейскага гурту "Мастер". Да знаходзячагася ў фае ГЦК Алекса Трэша падыходзіць бухі ў хлам Артур і прапаноўвае стварыць гурт, арыентаваны на спід-метал (у першую чаргу на "Мастер".
- Але пачакай, - кажу я яму - як жа мы будзем граць. Я ж ні на чым ня ўмею...
- Лухта гэта усё, - адказаў Артур - купіш гітару і навучышся.
- Добра, заўтра вырашым, а зараз - пагналі на "Мастер"!
На наступны дзень, я прыйшоў на тусоўку, дзе быў Артур, і прымеціў, што ён зусім нічога не памятае з таго, што учора мне казаў, і не хоча чуць ні пра які гурт. Праўда, хутка памяць да яго "вярнулася", і ён прыпомніў усё. І тут пачалася цяганіна з назовам каманды.
Мае англамоўныя назовы Артур адкінуў адразу, сказаў, што назоў трэба беларускамоўны (гэта для металёвага гурту? Ну-ну! - заўвага Трэша). І першае, што яму прыйшло ў галаву, было слова "Сталь".
-- Да ты што, з глузду з'ехаў? - кажу я яму - гэта ж ні у якія межы не лезе! Ты яшчэ "Алюміній" назаві...
Пасьля гэтага Артур доўга і мучыцельна прыкідваў, які назоў выбраць...
Нарэшце вырашыў спыніцца на слове "СТЫХІЯ".
- Добра, - кажу - гэта яшчэ куды не ішло. Хоць скандыраваць зручна...
З назвай разабраліся.
Пачалі набіраць склад. Набіралі цэлае лета. Мне ж яшчэ прыходзілася збіраць бабло на гітару. Хоць я зусім не разумеў, як я на ёй буду граць.
Да верасьня першы склад гурта быў канчаткова сфарміраваны:
Алекс Трэш - гітара.
Артур - ударныя (пазней перайшоў на бас)
Ілля "Мамон" - вакал
Андрусь - бас-гітара (пазней стане драммерам. Андруся прывёў Артур. Дзе і як знайшоў не казаў. Пазней даведаўся, што пазнаёміўся ён зм як і са мной - набухоўся і запрасіў у гурт)
Была яшчэ нейкая клавішніца Алена, якая ў складзе гурта так і не з'явілася і сама сабой як та натуральна адпала.
Склад сабралі і тут паперла такая трасца, што і распавядаць не хочацца!
Па-першае, хутка накрылася "кропка", дзе мы рэпетыравалі.
Па-другое, у калектыве не было згуртаванасці, адзінства. Кожны цягнуў у свой бок, як лебедзь, шчупак і рак. "Мамон", напрыклад, хацеў нешта хорд-рокавае (па-тыпу "Арыі").
Артуру было не істотна, што граць, але са складам тэкстаў давёў усіх, асабліва мяне:
- Ну і што гэта за маты тут? Мат я і сам сказаць магу, - пастаянна казаў Артур (у выніку "Рытуал" прыйшлося перарабляць, "П%*дзец гапаце" зусім не ўключылі ў рэпертуар).
Плюс яго пастаянныя прэтэнзіі да вакаліста, з-за чаго "Мамон" хутка зусім пакінуў гурт.
Вось тут мы і папалі ў дупу!
Новага вакаліста не знайшлі, пець прыйшлося самому Артуру (голас якога пакідае жадаць лепшага).
Хутка ў гурт прыйшоў клавішнік Яўген, які мае свой праект - гурт "Банда Мароза", але яго прыхож не прыпыніў пагружэнне "Стыхіі" у муць. Трасца працягвалася. Да таго ж музыку мы пачалі рабіць нейкую зусім неасэнсаваную. Артур у той час падсеў на "KISS" і пачаў патрабаваць ад нас , каб мы грыміраваліся пад іх і рабілі ўвесь гэты панк-раздаўбай.
Зразумела, гэта не магло не напружваць, асабліва калі твае песьні не прымаюцца, а ад цябе патрабуюць касіць пад кагосьці...
І вось у адзі прыгожы дзень я прамовіў Артуру:
- Усё! Я у тваёй багне заставацца не збіраюся!!! І сышоў з гурта. Аб гэтым зараз не шкадую, бо ў той час другога выхаду не было.
Гурт набыў новы імпульс з прыходам у гурт мэнэджэра Ігара, які накіровае рух гурта, чым вывеў яго на прафесійны узровень.
Не задаволены арганізаванасьцю гурта, ён выключыў са складу гурта вакаліста, якога не разу не бачыў і запрасіў новага - гітарыста і вакаліста Юру, а таксама сэсійнага ўдарніка Віцяя. Гэта быў добры крок, бо адразу гурт стаў згуртаваным і зараз пленна працуе.
Але Ігар яшчэ усё не пабачыць драммера Андруся, і думае што з ім патрэбна рабіць тое ж, што і з вакалістам, калі ён не з'явіцца ў бліжэйшы час.
Нават Артур зразумеў, што музыканты, нават лідэры, павінны займацца сваей справай - граць, а стратэгічныя і маркетынгавыя справы павінен рабіць мэнэджэр, які ведае, што патрэбна грамадству ў дадзены прамежак часу."

# ГОМЕЛЬСКАЯ "БАНДА МАРОЗАВА": ЗАВЕРШАНЫ ДРУГІ СУДОВЫ ПРАЦЭС.

***Міхась МІХНАВЕЦ***

Завяршыўся другі працэс над удзельнікамі гэтак званай "банды Марозава", якая дзейнічала ў Гомельскай вобласьці зь сярэдзіны 1990-х гадоў. Назіральнікі кажуць пра надзвычайную закрытасьць працэсу паводле справы банды. Сярод бандытаў былі і супрацоўнікі праваахоўных органаў.

Да найвышэйшай меры пакараньня, расстрэлу, калегія Вярхоўнага Суду прысудзіла Сяргея Марозава і Ігара Данчанку, якія ў сярэдзіне 1990-х гадоў сфармавалі ў Гомелі злачынную банду. Злачынцы вымагалі грошы ў мясцовых прадпрымальнікаў і забівалі тых, хто адмаўляўся плаціць.

Чальцам банды - Зайцава, Семчанку, Сідарэнку, Астрацову-Гутыру - суд даў 20 гадоў зьняволеньня, зь якіх пяць гадоў яны адбудуць у турме, а пятнаццаць - у калёніі. Алег Джумаў асуджаны на шэсьць гадоў зьняволеньня. Гэта ўжо другі працэс над С.Марозавым і ягонымі суўдзельнікамі. У сьнежні 2006 году вынесьлі прысуд болей як трыццаці чальцам банды. Тады да сьмяротнага пакараньня асудзілі



Марозава, Данчанку і Гарбатага. Прысуд быў канчатковы, абскардзіць яго немагчыма. Дараваць жыцьцё забойцам можа толькі прэзыдэнт краіны.

Працэс праходзіў у Менскім сьледчым ізалятары за зачыненымі дзьвярыма. Прадстаўнік пракуратуры Эльдар Сафараў патлумачыў закрытасьць працэсу "неабходнасьцю гарантаваць бясьпеку ўдзельнікаў працэсу".

Адметна, што сваякоў асуджаных не пусьцілі нават на агалошаньне прысуду. У залі, дзе праходзіў працэс, забаранілі тэле- і фатаздымкі.

Раней да 11 гадоў зьняволеньня суд асудзіў былога начальніка крымінальнага вышуку Гомелю Мікалая Лосева, які дапамагаў бандытам групоўкі Марозава. Між тым, дагэтуль не знайшлі яшчэ аднаго суўдзельніка бандытаў, які працаваў у мясцовай пракуратуры.

На судзе прагучалі зьвесткі пра арсэнал зброі, які знайшлі ў бандытаў. Сем аўтаматаў Калашнікава, некалькі пісталетаў, болей за тысячу патронаў, у тым ліку патроны для бясшумнай зброі, якія ўжываюць спэцыяльныя войскі. Адкуль гэта ў бандытаў і ці пакаралі тых, хто іх забясьпечваў адмысловымі сродкамі?

Прадстаўнік пракуратуры на працэсе Эльдар Сафараў заявіў, што ён пра гэта ня ведае: "У папярэдняй справе былі зьвесткі пра два аўтаматы Калашнікава, якія патрапілі з зоны прыднястроўскага канфлікту. Адкуль аўтаматы ў гэтай справе, мне як прадстаўніку дзяржаўнага абвінавачаньня, не вядома".

# ЧАРНОБЫЛЬ: ПАТЭНЦЫЙНЫХ АХВЯРАЎ - 5,5 МІЛЬЁНАЎ ЧАЛАВЕК

Прага Азэрбайджан, Расея і Украіна ўвайшлі ў дзясятку краінаў з найбольш забруджанымі гарадамі плянэты ў рэйтынгу няўрадавага інстытуту Blacksmith, які базуецца ў Нью-Ёрку. Спэцыялісты інстытуту вызначалі гарады, забруджанасьць якіх паўплывала на здароўе людзей. Улічваліся такія рызыкі - ад хваробы на астму да заўчаснай сьмерці. Канкрэтнага рэйтынгу - ад першага да дзясятага - інстытут не прапануе, бо няма дакладнай інфармацыі аб здароўі людзей у краінах, якія разьвіваюцца.
5 з паловай мільёнаў чалавек - патэнцыйныя ахвяры ваколіцаў Чарнобыльскай АЭС. Гэта найвялікшая лічба ў сьпісе інстытуту Blacksmith. Прычына - радыяактыўны пыл з уранам ды іншымі мэталамі.
У дзясятку самых небясьпечных для здароўя людзей месцаў уваходзіць азэрбайджанскі Сумгаіт, які патэнцыйна нанёс шкоду здароўю ці жыцьцю 275 тысячам чалавек. Небясьпека ўзьнікла ад узьдзеяньня цяжкіх мэталаў і арганічных хімікаліяў, што зьвязана з прамысловасьцю гораду.
У расейскім Дзяржынску (Ніжагародзкая вобласьць) экалёгія магла паўплываць на 300 000 чалавек, небясьпеку ствараюць напрыклад, фэнолы, зарын - гэта рэчыва нэрвова-паралітычнага ўзьдзеяньня. Усё гэта наступствы вытворчасьці ў Дзяржынску хімічнай зброі.
Небясьпечным для жыцьця людзей зьяўляецца расейскі Нарыльск, патэнцыйных ахвяраў у якім - 134 тысячы чалавек. Яны церпяць ад узьдзеяньня фэнолаў і цяжкіх мэталаў у выніку здабычы нікелю.
Сярод найбольш забруджаных рэгіёнаў сьвету - два раёны ў Кітаі, два ў Індыі і па адным у Пэру і Замбіі.
У больш шырокім пераліку трыццаці самых брудных месцаў у сьвеце названыя таксама расейскія Брацк, Чыта, Магнітагорск і Рудная Прыстань (Прыморскі край).
Па інф. www.svaboda.org



# "КЛУБ ІЛЬВОЎ" - ЦЯПЕР І У ГОМЕЛІ

*Ігар ЛЕВОРТ*

Не так даўно ў Гомелі з'явілася новая грамадская арганізацыя.
Гісторыя гэтага руху бярэ пачатак з 1917 года, калі ў Чыкага з'явіўся першы такі клуб. Там зараз і знаходзіцца зараз офіс гэтай арганізацыі.
Сябрамі гомельскага клубу сталі педагогі і юрысты, дактары і прамыслоўцы, шматдзетныя маці, прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый.
Адным з першых добрых спраў клуба стаў збор школьных прылад для дзяцей, апынуўшыхся у лякарні.
Вось гэта элітны клуб па-беларуску.
І не мае значэння, што ў заходнія клубы уваходзяць мільярдэры, прэзідэнты, прадстаўнікі знакамітых фамілій, выбітныя навукоўцы.
Да таго ж там гэта зусім нефармальная арганізацыя, якая мае значны ўплыў на горад дзе існуе.
Але для Гомеля гэта заканамерна: калі ў 1917 у Чыкага узнікаў першы "Клуб ільвоў", у Гомель прыходзілі заветы Ільіча і Сацыялістычная рэвальцыя.

# НАЙБОЛЬШ ВЫСОКАЯ СТУПЕНЬ ЗАБРУДЖАННАСЬЦІ ПАВЕТРА - ГОМЕЛЬ, СЬВЕТЛАГОРСК, МАЗЫР

Як паведамляецца ў справаздачы Міністэрства аховы навакольнага асяродзьдзя Беларусі, паводле колькасьці выкідаў шкодных рэчываў лідэрам сярод гарадоў Беларусі зьяўляецца горад Менск. Самы высокі ўзровень шкодных выкідаў у атмасфэру ад стацыянарных крыніцаў - у Наваполацку. Найбольш высокая ступень забруджанасьці паветра назіраецца ў Гомельскай вобласьці: у самім Гомелі, у Сьветлагорску і ў Мазыры.

Інфармацыйна-забаўляльны бюлэтэнь
Галоўны рэдактар: Ірына Прушынская
246050, г. Гомель, рэдакцыя "Гомельскія Навінкі", e-mail: GNavinki@gmail.com
Надрукавана на "Палессі". Тыраж: 250 асобнікаў.